Вы думалі калі-небудзь пра вось якую рэч?
Амаль на ўсіх дарогах
намаляваны белыя крэскі.
Але як яны там з'явіліся?
І хто іх намаляваў?

ISBN 978-985-7089-76-5






А ці ведаеце вы,
хто малюе ўсе крэскі
на дарогах?
Гэта дзяўчынка.
Аднойчы я бачыла,
як яна гэта робіць.
Яе завуць Віта.




Яна малюе толькі прамыя белыя крэскі
і заўсёды дакладна пасярэдзіне дарогі.


Але калі ў яе пытаюцца, ці можа яна намаляваць
штосьці іншае, яна адказвае толькі...
Не-е

Белыя крэскі на дарозе вельмі зручныя
і карысныя, бо тады машыны ведаюць,
куды ехаць, туды ці сюды.
Але часам яны ўсё адно блытаюцца.

Ідыёт

У вялізным банце на галаве
ў Віты жывуць
Зялёны Чалавечак
і Чырвоны Чалавечак.
Віта лічыць, што яны зашмат
сварацца між сабой,
але часам яны
ў добрым настроі.
Звычайна яны проста сядзяць
у банце ды нічога не робяць.



Аднойчы Віта ішла сваім шляхам вельмі-вельмі доўга.
Яна сустрэла хлопчыка, які хацеў перайсці дарогу
да сваёй сяброўкі, але ўсё ніяк не мог,
бо машынаў было надта шмат.






Віта дакладна ведала,
што ёй трэба зрабіць.

Але не паспела яна
апусціць свой пэндзаль
у фарбу, як...






Віта спалохалася.




Яна асцярожна расправіла свой бант. І раптам...
Прачнуліся чалавечкі.



Першым прачнуўся
Зялёны Чалавечак...

...А потым – Чырвоны Чалавечак.







Чалавечкі пачалі біцца,
і машына раззлавалася яшчэ больш.
«Лепш за ўсё пачынаць маляваць пераход», —
падумала Віта.

Раптам чалавечкі заўважылі машыну і спыніліся.




Машыны часта нічога не разумеюць,
таму чалавечкі вырашылі, што самы час заспяваць
ПЕСЕНЬКУ ПРА ПЕШАХОДНЫ ПЕРАХОД...

*Чырвоны Чалавечак спыняе рух людзей,*
*Машыны ж могуць ехаць па вуліцы далей,*
*Зялёны Чалавечак зялёным зазіхціць —*
*Тады машыны мусяць ахвочых прапусціць.*



Чырвоны Чалавечак забарабаніў па даху машыны.
Віта ўжо скончыла маляваць.
Яна ўзяла хлопчыка за руку, зірнула налева і направа
і пайшла праз дарогу.






Надышоў час
развітвацца.
Магчыма,
мы яшчэ сустрэнемся
калі-небудзь
на іншым пераходзе.


Машына пранеслася на вялікай хуткасці.
Гэй! Мы ведаем
вельмі добрую песеньку
пра стаянку.

Чалавечкі зрабілі сваю справу.
Задаволеныя сабой, яны спрытна
заскочылі назад у бант да Віты.
Там было цесна, але яны ўтульна
ўладкаваліся.



Надыходзіў вечар.
Машына ўжо ад'ехала далёка.
«Я спадзяюся, што калі-небудзь яна спыніцца», —
падумала Віта.





Калі надыходзіць вечар,
Віта звычайна ідзе да Альвара.
Гэта ён запальвае ўсе ліхтары.

Віта сядзіць у яго
на плячы і глядзіць
на агеньчыкі.
А потым яна засынае
ў кішэні
ў яго на грудзях.

